 


# Ніва

**ТЫДНЁВІК ГП БГКТ**

№ 21 (900) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 27 МАЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


**26 МАЯ — ДЗЕНЬ МАЦІ**

## МАЦІ

Ці хмары збяруцца, ці вецер падуе,
Ці крыўда сустрэне на сцежках жыцця —
Хто гэтак, як маці, цябе пашкадуе?
Дарослая, ты ёй і зараз дзіця.
У дарогу збірала — нібы адрывала
Ад сэрца крывінку, дзяўчынку сваю.
А як вінаватых яна б пакарала
За кожную горкую слёзку тваю!
...Тут зоркі на хвалях, тут вёсел усплёскі,
Тут побач з табою сябры да відна.
І ты ўсё радзей прыязджаеш у вёску.
А маці старэе. А маці — адна.

**Святлана Басуматрава**



■ Пленарнае пасяджэнне бельскага аддзела БГКТ (адбылося 8 мая) было прысвечана працы праўлення з актывам. Старшыня аддзела БГКТ Аляксей Карпюк пасля ўступнага слова пазнаёміў прысутных з дакладам Прэзідыума ГП, які быў прадстаўлены Мікалаем Самоцікам на пленуме ГП. Затым распачалася дыскусія, у якой выступілі Янка Суліма, Уладзімір Антанюк, Мікалай Зіневіч, Аляксей Карпюк, Сцяпан Трафімюк, Язэп Альшэўскі, Вера Валкавыцкая, Анна Лазовік. Гаварылі яны аб патрэбе цяснейшых сувязей з падставовымі школамі, з настаўнікамі беларускай мовы, аб патрэбе яшчэ большага развіцця самадзейнага руху з рэпертуарам на беларускай мове сярод дарослага насельніцтва і сярод школьнай моладзі. Шмат ўвагі было таксама прысвечана абслугоўванню гурткоў БГКТ актывістамі аддзела і працы праўлення аддзела. Дыскусію падсумаваў старшыня ГП Мікалай Самоцік, які таксама станоўча ацаніў працу аддзела і вы-




казаў свае меркаванні адносна лепшай працы штатнага працаўніка і аб выездзе актывістаў у гурткі.

Пленум займаўся таксама арганізацыйнымі справамі. Адклікаў ён з сакратара аддзела Валю Жменька і паверыў гэтыя абавязкі нядаўна пачаўшай працу ў аддзеле Анне Лазовік.

■ 12 мая адбылося пленарнае пасяджэнне варшаўскага аддзела БГКТ. Адкрыў і вёў пленум старшыня аддзела Аляксандр Баршчэўскі. Справаздачу аб дзейнасці за апошні перыяд (ад лістапада 1972 года) і план працы да канца гэтага года прачытаў сакратар аддзела Віктар Швед. Аб добрых баках і недахопах у працы аддзела гаварылі Юрка Бусловіч, Павел Дэкайла, Аляксандр Баршчэўскі, Мікалай Іванчук і Мікалай Врублеўскі. Уладзімір Станкевіч прапанаваў шырока ўключыцца ў адзначэнне 50-ай гадавіны КПЗБ, якая прыпадае на кастрычнік. Сакратар ГП Янка Зенюк, падсумоўваючы дыскусію, высока ацаніў працу аддзела ў апошнім паўгоддзі і расказаў аб галоўных напрамках дзейнасці ГП у гэтым годзе.

■ У апошні час літаратар Сакрат Яновіч правёў аўтарскія сустрэчы ў клубе „Лончнасцёўца" ў Беластоку, у Агародніках і Міхалове (Беластоцкі павет). (мх)




# АД БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

**ГАВОРЫЦЬ САКРАТАР ПА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ СПРАВАХ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРП У БЕЛАСТОКУ, МАГІСТР ІНЖЫНЕР СТЭФАН ЗАВАДЗІНСКІ.**

— Перш за ўсё ў дажынкавы вянок уносім мы рашучыя намаганні, каб сельская гаспадарка Беласточчыны па тэмпах развіцця была перадавой у краіне. Беластоцкае ваяводства не мае найлепшых натуральных умоў для сельскагаспадарчай вытворчасці. У параўнанні з іншымі раёнамі Польшчы вегетацыйны перыяд карацейшы ў нас дзён на 20. Маем найгоршыя па якасці зямельныя ўгоддзі. Якасць глебы ацэньваецца, як вядома, у класах — ад I да VI. Першая — найлепшая, шостая — найгоршая. У сярэднім для ўсёй краіны гэты паказчык складае 4,1, для нашага ваяводства — 4,6. Гэтыя пяць адзінак ствараюць вялікую розніцу. Звыш 100 тыс. гектараў зямлі ў 216 вёсках усё яшчэ застаецца ў нас у цераспалосіцы. Маем менш меліяраваных сенажацяў і дрэнаваных палёў. Многія іншыя паказчыкі (колькасць трактараў, добраўпарадкаваныя будынкі і т.п.) таксама не ствараюць нам спрыяльнай зыходнай базы.

Нягледзячы на гэта, на працягу мінулых 2 гадоў у сельскай гаспадарцы Беластоцкага ваяводства дабіліся мы аж 14-працэнтнага ўзросту прадукцыі. Такіх тэмпаў развіцця сельскай гаспадаркі даўно ўжо не наглядалася ані ў іншых ваяводствах нашай краіны, ані бадай нідзе на свеце. У высокаразвітых краінах трох- пяціпрацэнтны ўзрост сельскагаспадарчай прадукцыі лічыцца ўжо поўнасцю дастатковы, а ў нас, калі ласка — аж 14%. Перагналі мы іншыя ваяводствы па вырошчванню бульбы, дагналі найлепшых па прадукцыі цукровых буракоў, шматзначна адбіліся ад апошніх месцаў па ўраджайнасці збожжавых.

**Вось за гэта, за высокія тэмпы развіцця сельскай гаспадаркі ў нашым ваяводстве даверана нам ганаровая і абавязваючая роля гаспадароў Цэнтральных дажынак, якія адбудуцца ў Беластоку 2 верасня 1973 года.**

Дык найлепшым нашым падарункам у дажынкавы вянок будуць намаганні, каб у далейшым утрымаць гэтую спрыяльную атмасферу для „падоўжанага кроку" наперад нашай сельскай гаспадаркі.



Трэба памятаць, што канчатковыя вынікі складаюцца з многіх, часта дробных мерапрыемстваў. Да 15 мая мы, напрыклад, поўнасцю выканалі гадавы план продажу штучных угнаенняў, без якіх проста не можа быць аніякай гутаркі аб добрых выніках у сучаснай сельскагаспадарчай вытворчасці.

Мы стараемся прадбачваць развіццё падзей і загадзя падрыхтавацца да усялякага роду неспадзяванак, якія ў сельскай гаспадарцы здараюцца вельмі часта. Між іншым, у гэтым годзе мы ні ў якім выпадку — незалежна ад надвор'я — не можам дапусціць да таго, каб змарнаваўся хаця б адзін пакос травы або збожжа. Падрыхтоўку да сенакосаў і жніва распачалі мы яшчэ на вясну. Найбольш зараз увагі звяртаем на тое, каб усе машыны, прызначаныя да ўборкі сена і збожжа, знаходзіліся ўжо ў поўнай гатоўнасці. Тут для гультаёў, або мала зарадных загадчыкаў машынна-трактарнымі базамі ніякага памілавання не будзе. Некаторых з іх мы ўжо сурова пакаралі і ад гэтага не адступім.

Не можам літавацца над тымі, хто ўводзіць балаган, хто нядбайна адносіцца да грамадскага дабра.

Трэба нам рашуча змагацца з даўнейшай традыцыяй, якая падказвала сялянам пачынаць сенакос не раней, чым пасля „святога Яна". На меліяраваных і добра загаспадараных сенажацях неабходна касіць траву не адзін раз, а два і тры разы, бо кармоў у нас яшчэ ўсё замала, а жывёлагадоўлю трэба нам развіваць асабліва інтэнсіўна.

У гэтай галіне сельскагаспадарчай вытворчасці шчыра вітаем і ўсімі сіламі падтрымоўваем кожную разумную прапанову. Пачынаецца вось раскручвацца ў нас так званы „летні адкорм свіней". Спадзяемся, што ў гэтым годзе зоймецца ім амаль тысяча сялян, з чаго дадаткова наша гаспадарка атрымае звыш 30 тыс. кормнікаў. Заахвочваем сялян да арганізацыі жывёлагадоўчых суполак. У гэтым выпадку 3—4 ці больш гаспадароў-аднавяскоўцаў спалучаюць свае грашовыя і матэрыяльныя сродкі ды супольна будуюць добраўпарадкаваную абору або хлеўню і супольна разводзяць жывёлагадоўлю. Для такіх жывёлагадоўчых калектываў дзяржава можа даваць да 40 прац. інвестыцыйнай пазыкі. Аднагасова намагаемся арганізаваць адкорм свіней пры розных сталоўках і рэстаранах, усюды там, дзе застаюцца спажывецкія адпадкі.

Хочам, каб нашы госці, якія завітаюць да нас на дажынкі і пасля іх, вывезлі ад нас добрыя ўражанні і ліха нас не ўспаміналі. Таму (і не толькі таму) мы шырока распаўсюдзілі конкурс **„Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная"**. Незалежна ад гэтага конкурсу распачалі мы масава ліквідаваць саламяныя стрэхі. У гэтым годзе прадбачваецца перакрыць амаль 2 тыс. дахаў, асабліва ўздоўж турыстычных шляхоў.

Хочам, каб беластоцкая вёска хутчэй набліжалася да самага высокага еўрапейскага ўзроўню.

І гэта таксама наш уклад у дажынкавы вянок.

Запісаў **Віктар Рудчык**



Харошча. Фота Я. Цялушэцкага




**Гайнаўскі ліцэй ● Справаздача аб цэнтральным аглядзе школьных тэатральных калектываў ● Літаратурная старонка ● Матура ў Бельску ● З ПКС-у — галавой на брук ● Моладзь Дуброўшчыны ● Яслі-сад № 26 у Мінску ● Ці варта насіць парыкі? ● Весткі з Гамотаў, Чэхаў Арлянскіх, Катлоў, Дубіч, Белавежы, Мілейчыц, Грыгораўцаў і Слоі ● Гумар пра дзяцей і песня** „Butterfly"

 

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі


СВЕТ

БССР

ПОЛЬШЧА

ВАЯВОДСТВА

## ПАДПІСАНЫ ТРЫ ПАГАДНЕННІ

Калі аддаем гэты нумар да друку, працягваецца афіцыяльны візіт Л. Брэжнева ў ФРГ, які ўзбуджае ўсеагульную цікаўнасць ва ўсім свеце.

Аб гэтым зацікаўленні можа сведчыць і тое, што ў Бон прыехала з усяго свету больш тысячы карэспандэнтаў розных газет і часопісаў. Ужо падпісаны тры пагадненні. Звяртаецца ўвага на факт, што гандлёвае пагадненне падпісалі асабіста Л. Брэжнеў і В. Брант. Л. Брэжнеў сказаў, што на працягу бліжэйшых двух год у СССР будзе пабудаваны гандлёвы цэнтр, дзе будуць падпісвацца гандлёвыя пагадненні. Аднак да гэтага часу няма патрэбы чакаць.

Калі цікаўныя запыталі Л. Брэжнева аб ацэнцы яго візіту, сказаў ён, што ацэнка толькі пазітыўная і ён не спадзяецца, што будзе інакш.

У часе сустрэчы з прэзідэнтам ФРГ Г. Хайнеманам Генеральны сакратар ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета запрасіў яго нанесці візіт у СССР.

## РАШЭННІ БУНДЭСТАГА

Бундэстаг ФРГ ратыфікаваў дагавор аб асновах адносін паміж Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай і Федэратыўнай Рэспублікай Германіі і адобрыў урадавы законапраект аб уступленні ФРГ у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. За ратыфікацыю дагавору было пададзена 268 галасоў. Супраць галасавалі 217 дэпутатаў апазіцыйнага блоку ХДС-ХСС. Характэрна, што 4 дэпутаты ад апазіцыі галасавалі за ратыфікацыю дагавора.

Законапраект аб уступленні ФРГ у ААН быў адобраны 365 галасамі. Каля палавіны дэпутатаў ХДС-ХСС галасавалі разам з кааліцыйнымі партыямі за ўступленне ФРГ у ААН.

## ПРАВЕРКА ПАГАДНЕННЯ

У Ханоі паведамілі аб тым, што ўрад ДРВ і ўрад ЗША прыйшлі да дагаворанасці аб правядзенні перагавораў для праверкі выканання Парыжскага пагаднення аб спыненні вайны і аднаўленні міру ў В'етнаме і для адшукання мер, якія забяспечваюць паслядоўнае выкананне гэтага пагаднення.

## ШПІЁНЫ І САБАТАЖНІКІ Ў ЗАМБІІ

Расісцкія рэжымы поўдня Афрыкі засылаюць у Замбію сабатажнікаў і шпіёнаў для пранікнення ва ўрадавыя ўстановы і ўзброеныя сілы краіны. Аб гэтым заявіў прэзідэнт Замбіі К. Каўнда, выступаючы перад курсантамі лётнага вучылішча на замбійскай ваеннапаветранай базе.

## ЗАГІНУЛІ ПАСЛЯ МАНЕЎРАЎ

Два англійскія салдаты загінулі і два атрымалі цяжкія калецтвы. Гэта здарылася каля мястэчка Харэн (Вестфалія) пасля манеўраў, калі танк, які належыць брытанскім узброеным сілам, упаў з 8-метровага адхону шашы. (ак)

## ПЛЕНУМ ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

У Мінску 15 мая 1973 года адбыўся X Пленум Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі. Яго ўдзельнікі разгледзелі вынікі красавіцкага (1973 г.) Пленума ЦК КПСС па пытанню „Аб міжнароднай дзейнасці ЦК КПСС па ажыццяўленню рашэнняў XXIV з'езду партыі" і задачы партыйных арганізацый Беларусі. З прамовай па гэтаму пытанню выступіў кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў. Пленум ЦК КП Беларусі аднадушна адобрыў пастанову Пленума ЦК КПСС, прынятую 27 красавіка 1973 г., палажэнні, ацэнкі і задачы, змешчаныя ў дакладзе таварыша Л. І. Брэжнева „Аб міжнароднай дзейнасці ЦК КПСС па ажыццяўленню рашэнняў XXIV з'езду партыі". Пленум адзначыў плённыя поспехі ў вырашэнні задач па ўмацаванню пазіцый сацыялізму, адзінства брацкіх сацыялістычных краін і ўмацаванню міру.

## ПОЛЬСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў МІНСКУ

У Мінскім Палацы спорту 30 знешнегандлёвых аб'яднанняў і прадпрыемстваў Польшчы дэманструюць самыя разнастайныя вырабы: грузавыя аўтастанкі, дакладнейшыя вымяральныя прыборы, шырокую гаму тавараў народнага спажывання і іншую прадукцыю.

Аб значэнні, якое прыдаюць гэтай выстаўцы Польшча і БССР, сведчыць той факт, што ў яе адкрыцці прынялі ўдзел прадстаўнікі самых вышэйшых урадавых і партыйных устаноў. З боку БССР — кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. М. Машэраў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў, старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, міністр замежнага гандлю СССР М. С. Патолічаў і іншыя, а з боку ПНР — намеснік Старшыні Савета Міністраў ПНР К. Альшэўскі, надзвычайны і паўнамоцны пасол ПНР у Савецкім Саюзе З. Новак, міністры Т. Аляхоўскі, Е. Шнайдэр, Т. Куніцкі і прадстаўнікі Варшаўскага ваяводства, якое ўтрымоўвае цесныя сувязі з Мінскай вобласцю.

Польская выстаўка праходзіць пад лозунгам „Зроблена ў Польшчы". Яна паслужыць справе далейшага расшырэння гандлёвых сувязей на карысць працоўных абедзвюх краін, умацавання брацкай дружбы паміж савецкім і польскім народамі.

Адначасова гэтая выстаўка ў Мінску дае савецкім грамадзянам даволі шырокае ўяўленне аб эканамічным і грамадскім развіцці народнай Польшчы на парозе яе 30-годдзя.

## ПІСЬМЕННІК ДЗІЦЯЧЫХ МАР

Грамадскасць Беларусі ўрачыста адзначае 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Маўра — вядомага беларускага аўтара дзіцячай літаратуры.

Творы Янкі Маўра карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў маладых і старэйшых чытачоў. У Савецкім Саюзе выдаваліся яны 64 разы агульным тыражом у звыш 2 млн. экземпляраў, у тым ліку ў Беларусі 50 разоў агульным тыражом у больш чым адзін мільён экземпляраў. Кніжкі Янкі Маўра перакладзены на нямецкую, румынскую, кітайскую і іншыя мовы. (вр)

## З „ТРЫБУНАЙ ЛЮДУ" НА БУДОЎЛЯХ ГОДА

Гэта пастаянны загаловак вялікага цыкла, які вядзе орган ЦК ПАРП. У ім смела і вельмі крытычна публікуюцца розныя матэрыялы з цэнтральных будоўляў у краіне. Многа было крытыкі пад адрасам некаторых вялікіх будоўляў, што не выконваюць планаў, што кепская арганізацыя працы, марнатраўства матэрыялаў. А сёння даносім цікавую вестку: што на месяц раней, ужо 1 чэрвеня, будзе аддадзен у карыстанне вялікі халадзільнік у Любліне. Як вядома, Люблінскае ваяводства з'яўляецца вялікім рэзервуарам сельскай гаспадаркі.

## ГОСЦЬ З ІСЛАНДЫІ

Міністр замежных спраў Ісландыі Э. Агустсон прыехаў у Польшчу з афіцыяльным візітам.

## МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ВАРШАВЕ

У Варшаве адбылася міжнародная тэарэтычная канферэнцыя партыйных дэлегацый з сацыялістычных краін на тэму: „Рабочы клас і яго партыі ў сучасным сацыялістычным грамадстве".

## СУПРАЦОЎНІЦТВА ПОЛЬШЧЫ І СССР

Толькі ў гэтым годзе пачне працаваць у СССР некалькі вялікіх прадпрыемстваў, абсталяваных польскімі машынамі. А колькі ўжо такіх фабрык працуе ў СССР! Супрацоўніцтва паміж Польшчай і СССР пашыраецца. Новыя савецкія заказы ў Польшчы дасягаюць 1,5 мільярда злотых дэвізовых. У сваю чаргу ў Польшчы вядомы слаўныя савецкія фабрыкі дамоў.

## НАД РЭФОРМАЙ АСВЕТЫ

Хто цяпер не дыскутуе над пытаннем, якой будзе ў нас у будучыні школа? Асновай для гэтай дыскусіі з'яўляецца рапарт экспертаў, які прапануе некалькі варыянтаў. Які варыянт будзе выбраны, яшчэ ніхто не ведае, бо ідзе агульнанародная дыскусія над мадэлем будучай школы. У апошні час над гэтай праблемай ішла дыскусія ў сеймовых камісіях — асветы і выхавання і — навукі і тэхнічнага прагрэсу.

## ПРАВАДЫРЫ ПАРТЫІ І ДЗЯРЖАВЫ НА КАШАЛІНСКАЙ ЗЯМЛІ

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер П. Ярашэвіч наведалі Кашалінскае ваяводства. Гэта ў асноўным ваяводства сельскай гаспадаркі і рыбалоўства, але ўсё больш развіваецца тут прамысловасць, звязаная з гэтымі галінамі прадукцыі. Высокія госці наведалі фабрыкі, сустракаліся з рабочымі, з гаспадарамі ў вёсках і на палях.

## АХОВА БАЛТЫЙСКАГА МОРА

Па польскай ініцыятыве збярэцца ў Гданьску ў верасні канферэнцыя прыбалтыйскіх краін, каб апрацаваць план захавання Балтыйскага мора ад далейшага забруджвання і знішчэння яго фаўны.

## СУВЯЗЬ З ПАЛОНІЯЙ

У Варшаве адбыўся IV з'езд таварыства сувязі з замежнай Палоніяй. Прысутнічаў і выступіў са словам старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі. На з'ездзе быў падкрэслены факт, што барацьба за мір і справядлівасць з'яўляецца традыцыяй усіх палякаў, дзе б яны не пражывалі. (вл)

## ПРАФСАЮЗНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

19 мая ў Беластоку адбывалася VI справаздачна-выбарная канферэнцыя Ваяводскай рады прафсаюзаў. Удзельнічала ў ёй 90 дэлегатаў. Прысутнічалі таксама І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, сакратар ЦРЗЗ І. Срочынская, сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, прадстаўнікі ваяводскіх улад палітычных стронніцтваў, жаночых і маладзёжных арганізацый.

На канферэнцыі гаварылася аб вялікай актыўнасці працоўных у хутчэйшым развіцці Беласточчыны, аб старанні, каб павышаўся ўзровень жыцця, гаварылася аб барацьбе з марнатраўствам і парушэннем рабочай дысцыпліны і аб усё ўзрастаючай ролі прафсаюзаў у нашым грамадскім жыцці.

На канферэнцыі быў выбраны новы склад Ваяводскай рады прафсаюзаў. Старшынёй зноў выбраны Ю. Трусевіч, а сакратарамі — Л. Зіневіч і Я. Блях.

## ВЫСТАЎКА КНІЖКІ

Па ініцыятыве беластоцкага прадпрыемства распаўсюджвання прэсы і кніжкі „Прэса—кніжка—рух" у чытальні клуба МПіК у Беластоку адкрыта выстаўка кніжак выдавецтва „Кніжка і веды", найстарэйшага і найбольшага выдавецтва грамадска-палітычнай літаратуры ў Польшчы.

## ПВРН АБ „ФАСТАХ"

На чарговым пасяджэнні Прэзідыума ВРН, якое адбылося 16 мая, была ацэнена праца фастаўскага тэкстыльнага камбіната за 1972 год. Прэзідыум дадатна ацаніў дасягнутыя вынікі прадпрыемства, звяртаючы адначасова ўвагу на неабходнасць поўнага выкарыстання ўсіх рэзерваў у атрыманні звышпланавай прадукцыі, паколькі вырабы фастаўскага камбіната вельмі патрэбны як на ўнутраны рынак, так і на экспарт. Прэзідыум звярнуў увагу на далейшае развіццё сацыяльна-бытавой базы прадпрыемства. Для рабочых фастаўскага камбіната будзе пабудаваны санаторый у Аўгустове.

## НАЙЛЕПШЫЯ

Беластоцкае прадпрыемства пекарскай прамысловасці і прадпрыемства дэталічнага гандлю ў Элку — два прадпрыемствы з Ваяводскага аб'яднання гандлёвых прадпрыемстваў занялі першыя месцы ў краіне кожнае ў сваёй галіне. 19 мая адбылося ўрачыстае ўручэнне гэтым прадпрыемствам пераходных сцягоў Міністэрства ўнутранага гандлю і паслуг, а таксама Галоўнага праўлення прафсаюза харчовай прамысловасці і прафсаюза працаўнікоў гандлю і спулдзельчасці. Асабліва падкрэслена тое, што найлепшымі аказаліся прадпрыемствы, цесна звязаныя са штодзённым забеспячэннем рынку.

## ГАНАРОВЫЯ АДЗНАКІ ТППР

Галоўнае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы прызнала залатыя ганаровыя адзнакі за папулярызацыю ідэі польска-савецкай дружбы І агульнаадукацыйнаму ліцэю ў Беластоку, гуртку ТППР пры пачатковай школе ў Старым Бжазове Лапскага павету, Малачарскаму тэхнікуму ў Беластоку, клубу працаўнікоў гандлю ў Сувалках, а таксама шэрагу індывідуальных дзеячоў. (яч)




**Niedziela 27.V.**
7.35 Program dnia. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 „Radar". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.30 „W obiektywie". 11.00 „Koncert Niedzielny z Berlina". 12.00 Dziennik. 12.'0 „Przemiany". 12.50 Dla dzieci: J. Jelisiejew — „Jak się bawić, to się bawić" — widowisko Państw. Teatru Lalek w Szczecinie. 13.50 „Klub Sześciu Kontynentów". 14.35 Losowanie Totolotka. 14.50 „W starym kinie" — Komik z Pragi. 16.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 17.45 PKF. 18.00 „Po przerzucie" — film dok. 18.15 „Piosenka dla Ciebie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Cień w blasku słońca" — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii") odc. III. 21.45 „Sofia-show". 22.35 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 28.V.**
12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 12.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: A. Arbuzow — „Irkucka historia". 21.40 „Pryzmat". 22.10 Dziennik. 22.25 „Gościmy w studio artystów węgierskich".

**Wtorek 29.V.**
9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Czechow „Czajka". 10.30 „Cień w blasku słońca" — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii") odc. III. 12.00 „Przyjaciółki" — film dok. 12.45 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — F. Zabłocki — „Fircyk w zalotach". 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Spotkanie z pisarzem — Bohdanem Drozdowskim". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Kochana ciocia Sarika" — film fab. węg. 21.45 „Dzień pierwszy" — rep. film. 22.10 Magazyn medyczny. 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe.

**Środa 30.V.**
8.20 „Kochana ciocia Sarika" — film fab. węg. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Rozszerzalność cieplna ciał". 10.55 Dla szkół: (kl. VII-VIII) Wychowanie plastyczne — „Sztuka i świat". 11.25 „Człowiek w obrazach dawnych mistrzów" — film dok. NRD. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Nepal" — film dok. („Dzieci świata"). 17.05 PKF. 17.20 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.40 „Spacerkiem po kinach". 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.30 „Świat i Polska". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Zachar Bolszakow" — film radz. („Cienie zanikają w południe") odc. VII. 21.20 Finał piłkarskiego Pucharu Klubowych Mistrzostw Europy AJAX (Amsterdam) — JUVENTUS (Turyn). 23.10 Dziennik.

**Czwartek 31.V.**
9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Sole". 9.35 „Zachar Bolszakow" — film radz. („Cienie zanikają w południe") odc. VII. 10.55 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Język polski — „Aktualności plastyczne". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Julian Tuwim". 14.00 Matematyka w szkole: „Pogłębianie i utrwalanie materiału nauczania w ćwiczeniach". 15.20 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Film. 18.10 „Pod hasłem współpracy" — program film. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Wczasy pod banderą" („Morskie spotkania"). 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: J. Janicki — „Akcja V". 21.25 „Przy wspólnym stole" — program publ. 22.05 „Ekspres nr. 27. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Piątek 1.VI.**
8.20 „Walka o Jadwigę" — film fab. czechosł. 9.55 Dla szkół: (kl. II) „Czerwony kur". 10.15 Filmy dokumentalne: „Harmonia świata" — czechosł. „W kręgu muzyki" — czechosł. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Nasza klasa". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 i 23.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Festyn telewizyjny" — program rozr. czechosł. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Lubię kolor czerwony, zielony, żółty" — film o dzieciach. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Czas zielonych dni". 20.45 „Panorama". 21.25 Teatr TV: O. Danek — „Człowiek z dżungli". 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Europy w boksie.

**Sobota 2.VI.**
8.25 Film fabularny. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ochrona przyrody — ochroną człowieka". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: A. Korta — „Rozdroże". 17.40 „Sandomierz — temat osobisty". 18.10 „Z kamerą wśród zwierząt". 18.40 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Gwiazdy siedmiu stolic" — program estradowy. 21.15 Dziennik. 21.40 Film fabularny. 23.15 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Europy w boksie.




**Piątek, 25 maja**

8.15 Film fab. 10.00 Szkoła szachowa. 18.15 Spektakl TV. 19.30 Turniej TV poświęcony Polsce. 0.30 Tańczcie z nami.

**Sobota, 26 maja**

7.30 Dla dzieci. 8.00 Koncert. 9.00 Mozaika muzyczna. 9.55 Przegląd międzynarodowy. 10.10 Film dokument. 11.00 Białe i czarne. 12.30 Spotkania muzyczne. 13.30 Film fab. Hamlet. I część. 14.45 Filmy animowane. 15.55 Piłka nożna ZSRR-Francja. 17.50 Spektakl TV.

**Niedziela, 27 maja**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dla żołnierzy. 9.45 Koncert życzeń. 11.45 Film fab. Hamlet. II część. 15.00 Klub Filmowy. 17.00 Program sportowy. 18.10 TV teatr miniatur.

НА НІВЕ → БГКТ

# МЕЛЯШКОЎСКІЯ САМАДЗЕЙНІКІ

Пачалося ўсё ад таго, што кіраўнік мастацкага самадзейнага гуртка Зіна Літвін (яна і дырэктар пачатковай школы ў Меляшках Беластоцкага павету) задумала паставіць на сцэне штосьці новае, нейкую сцэнку з багатых вясковых абрадаў, вось, напрыклад, вясковае вяселле. Рэшта меляшкоўскіх жанчын адразу ж адобрыла гэтую думку. Такога яшчэ не было ў іх на сцэне. Шмат прыйшлося папрацаваць над падрыхтоўкай сцэнарыя Зіне Літвін і іншым жанчынам. Дапамаглі ёй маладыя жанчыны з Лукі з суседняга Гайнаўскага павету, якія выйшлі замуж у Меляшкі. (На Гайнаўшчыне вяселле, аказваецца, яшчэ больш цікавае і змястоўнае). У падрыхтоўцы пастаноўкі вельмі дапамагла Ніна Мушынская з Гарадка, вопытны сцэнарыст пастановак па народных матывах. Усе імкнуліся да таго, каб вяселле не зацягвалася ды не страціла свайго праўдзівага каларыту, гумару і ўрачыстасці. Прыйшлося пакінуць толькі найважнейшыя эпізоды. „Маладой" была выбрана Зіна Сянкевіч, замужняя меляшкоўская прыгажуня, а паколькі гуртак БГКТ у Меляшках не малы, 27 асоб, то было каму выступіць у „Вяселлі"! Каб пашырыць праграму, жанчыны падрыхтавалі яшчэ пастаноўку М. Кудзелькі „Мікітаў лапаць".

Набліжаўся 8 сакавіка — Міжнародны дзень жанчын. Рэпетыцыі адбываліся часцей, чымсьці два разы ў тыдзень, як бывала гэта спачатку. І вось жанчыны з Меляшкоў на сцэне! Вестка гэта даляцела не толькі да жыхароў навакольных вёсак, але нават да тых меляшкоўцаў, якія цяпер пражываюць у Беластоку. У той дзень з'ехалася ў Меляшкі многа людзей. Самадзейнікі найперш выступілі са спектаклем для школьнай моладзі, а пасля, вечарам, для дарослых. Першае выступленне, хадя перад дзіцячай публікай, прайшло паспяхова (так як і другое), але „артысты" перажывалі яго з немалым хваляваннем. Выступалі яны ўпершыню! Той вечар застаўся надоўга, мо нават назаўсёды ў памяці меляшкоўскіх самадзейнікаў і ўсіх прысутных гледачоў. Тым апошнім найбольш спадабаліся народныя песні, маладая і багаты каравай.

Пстым ездзілі яны з пастаноўкай у вёску Валілы і ў далейшым намераны выступаць на вясковых сцэнах.

Дасканалая інсцэнізацыя звычайнага вясковага вяселля спадабалася таксама на павятовым аглядзе тэатральных калектываў, дзе калектыў з Меляшкоў заняў другое месца, а на цэнтральным аглядзе ў Беластоку — атрымаў спецыяльную ўзнагароду за ініцыятыву і распаўсюджванне фальклорнай творчасці.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Адна са сцэн «Вяселля».*



*Маладую (Галіну Сянкевіч) убіраюць Леаніда Дарашкевіч, Валянціна Дарашкевіч, Насця Карповіч і Ніна Лавіцкая.*



*Каравайніцы: Леаніда Шыкуць, Леаніда Дарашкевіч, Валянціна Дарашкевіч і Ніна Лавіцкая зачароўвалі гледачоў народнымі песнямі.*

СЛЕДАМ ЛІСТАЎ У РЭДАКЦЫЮ

# СІРОЧАЯ ДОЛЯ

Неяк так склалася, што сярод рэдакцыйнай пошты апынуліся два лісты, падобныя па зместу. Абодва ад удоваў, абодва пра цяжкую сірочую долю малых дзяцей, абодва з просьбай дапамагчы.

Надзея Баўтручук з вёскі Клейнікі ў Чыжоўскай гміне на Гайнаўшчыне засталася ўдавою два гады таму назад. Муж яе памер раптоўна, асіраціўшы двое малых дзяцей. Пра яе лёс пісаў я год таму назад, а наша рэдакцыя па меры сваіх магчымасцей старалася ёй дапамагаць. Да гэтага яна і адклікаецца, калі піша:

*Вельмі дзякую пану Рудчыку за дапамогу ў маёй бядзе. Аддзел асветы прызнаў мне 100 злотых дапамогі. Мне таксама сказалі, каб я пісала заяўку да дырэктара пачатковай школы ў Клейніках і прасіла прызнаць пастаянную стыпендыю. Аднак наш дырэктар не хоча мне параіць, як напісаць гэтую заяўку. Ён мне заявіў, што майму дзіцяці заблізка ў школу і таму яно не можа атрымаць пастаяннай стыпендыі. Ці не ведае гэты дырэктар, як цяжка гадаваць і вучыць дзяцей без бацькі? Я ўжо маю метрыку нараджэння дзіцяці і смерці мужа, але не ведаю, ці дырэктар прызеліць мне гэтую стыпендыю...»*

Быў я ў клейніцкай школе, гаварыў з дырэктарам Васілём Пучкам.

— Гэта няпраўда, што я не хачу ёй дапамагчы, — сказаў мне дырэктар. — Хацець адна справа, а магчы — гэта другая. Вось прызналі мы ёй гэтыя 100 зл, якіх яна ўзяць не вельмі хацела, бо крыўдавала, што мала. Сапраўды, за 100 зл. не разжывешся, але на кніжкі і сшыткі для вучня II класа поўнасцю хопіць. Пастаяннай аднак стыпендыі мы не можам, на жаль, прызнаць для яе дзіцяці, бо яго сямейнае становішча не для прыдзелу такой стыпендыі. Затое раіў я пані Баўтручук старацца, каб яе дзіця як паўсірату ўзялі на бюджэт дзяржаўнага дома дзіцяці. У гэтым выпадку справу ў асноўным вырашае гміна, а мы як школа толькі даем сваю апінію.

Што ж, такое выйсце, на маю думку, было б як найбольш пажаданае. У Надзеі Баўтручук ёсць жа даволі вялікая гаспадарка, якая таксама дае нейкі даход.

* * *

Другі ліст быў ад Надзеі Бобік з Ласінскіх хутароў у Нараўскай гміне. Пісала яна:

*«Звяртаюся да вас з вялікай просьбай. Я ўжо сем год удава. Маю трое малых дзяцей. За памершага мужа атрымліваю 1350 зл. рэнты. Кожны ведае, што такой рэнты не хопіць, каб апрануць і накарміць трое дзяцей, бо ўсе яны ходзяць у школу. Харчовыя прадукты таксама дарагія, а на дадатак я яшчэ жыву ў чужой хаце, за якую трэба плаціць. Каб неяк раздабыць крыху грошай, хаджу на заробкі, дапамагаю гаспадарам у полі. Ведаеце самі, якія цяжкія гэта грошы. Я звярталася ў аддзел грамадскай апекі і пісала ў Варшаву, каб крыху мне дапамаглі. Але ніхто не хацеў пацікавіцца беднаю ўдавою. Хоч жыві, хоч — памірай разам са сваімі дзецьмі. Пішу да Вас, можа Вы мне штo-колеч дапаможаце, або прышлеце нейкага добрага чалавека, які хаця крыху захацеў бы дапамагчы ў маім цяжкім жыцці...»*

Зацікавіўся я лёсам беднай удавы. У нашай рэдакцыі мы ніколі не адносімся абыякава да лістоў, а тым болей да лісту такога, як ад Надзі Бобік.

У чыстым полі, між шашой з Нарвы ў Гайнаўку і вёскай Ласінкай стаіць адзінокая хата. Там жывуць Надзея Бобік і яе трое дзяцей, сярод якіх найстарэйшы Алек ходзіць у шосты клас, а самы малодшы Раман з'ўляецца вучнем другога класа. Сярэдняй Ані 12 гадоў. Дзеці апрануты не багата, але чыста і старанна. Відаць, што маці дбае пра іх. Але ў хаце — бедна, вельмі бедна. Побач з хатай — невялічкі хлеўчык. Стаіць пусты.

— Што вы, не трымаеце ні свіней, ні каровы? — пытаю, гледзячы на поле і сенажаць, якая падыходзіць амаль пад парог. Аказваецца, што ўсё гэта чужое і нават курэй цяжка ўтрымаць, бо ўласнікі поля крыўдуюць, што ім шкоду робяць.

Муж Надзеі Бобік працаваў стаоражам на адным з гайнаўскіх прадпрыемстваў. Памёр ад рака.

Пра яе лёс гавару з ласінскім солтысам Уладзімірам Шварцам, з дырэктарам ласінскай школы Расцісклавам Налівайкам, з начальнікам гміны ў Нарве Віталісам Пякарскім. Усе яны абяцалі дапамагчы. Асабіста найбольш лічу на магчымасці начальніка Пякарскага. Сям'я Бобікаў поўнасцю кваліфікуецца да таго, каб ёю заапекавацца. А можа і ў гэтым выпадку запрапанаваць Надзеі Бобік, каб старалася перадаць сваіх дзяцей як паўсірат пад пастаянную апеку нейкаму дзяржаўнаму дому дзіцяці?

Мяркую яшчэ, паважаны Чытачы, што і Вы таксама шмат у чым змаглі б дапамагчы гэтым удовам і іх дзецям. У кожнай болей зажытачнай сям'і знойдзецца ж нейкая старая, але яшчэ зусім добрая вопратка, з якой павырасталі ўжо дзеці. Прышліце нам яе ў рэдакцыю і напішыце, каму яе прызначаеце, а мы пастараемся як найхутчэй перадаць гэта патрабуючым.

**Віктар Рудчык**



*Сярод поля стаіць старэнькая хатка без святла, у якой жыве асірацеўшая сям'я Надзеі Бобік. Двое яе дзяцей Аню і Рамана бачым на здымку. Невясёлае ў іх дзяцінства.*

## Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву" на III квартал?

**Калі не, дык зрабіце гэта да 10 чэрвеня (гэта значыць неадкладна). А яшчэ лепш зробіце, калі выпішаце "Ніву" да канца года.**

**Выдатак невялікі, а карысць велізарная. Вы пазбавіцеся лішніх клопатаў, а знойдзеце верную сяброўку і дарадчыка.**

# Патрэбная школа

Сельская гаспадарка патрабуе кваліфікаваных людзей. Цяпер, калі на механізацыю ўсіх сельскагаспадарчых работ звернута асаблівая ўвага, не абысціся без іх. Веды асабліва патрэбны маладым, пачынаючым гаспадарам. Рыхтуюць іх да гэтай прафесіі, між іншым, засадніцкія сельскагаспадарчыя школы (ЗСР).

Наведалі мы адну з такіх школ. Засадніцкая сельскагаспадарчая школа ў Нараўцы Гайнаўскага павету існуе ўжо дзесяць гадоў і мае вялікія поспехі ў падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі. Дырэктар нараўкаўскай ЗСР Васіль Міхноўскі ахвотна расказвае аб настаўніках і вучнях. Вучні ахвотна ідуць вучыцца ў нараўкаўскую ЗСР, бо ёсць тут добрыя настаўнікі і школа дае добрую практычную падрыхтоўку для выконвання нялёгкай прафесіі гаспадара. Школа многа ўвагі прысвячае вырошчванню агародніны і фруктаў. Мае яна 60 уласных інспектаў, у якіх вырошчваюць салату, расаду капусты, памідоры і цыбулю. Расаду капусты ды флянсы памідораў ахвотна купляюць усе нараўкаўскія ды не толькі мясцовыя гаспадыні. Нават упісваюцца яны ў доўгую чаргу ўжо з першым подыхам вясны. Трохі пазней расады ўсім не хопіць. Школа мае, такім чынам, свае грошы, якія выкарыстоўвае на арганізацыю розных культурных мерапрыемстваў, на экскурсіі, на турысцкія паходы і г.д. А ў сваю чаргу вучні ЗСР, самастойна вырошчваючы агародніну, найлепш пазнаюць усе тайны, якія неабходна ведаць на гаспадарцы.

Аб сельскагаспадарчай школе ў Нараўцы вельмі цёпла расказалі нам самі вучні. А вучацца тут выпускнікі пачатковых школ нават з Алецкага, Элцкага і Беластоцкага паветаў. У мінулым годзе былі таксама вучні з Сямяціцкага павету.

Усе вучні ЗСР у Нараўцы прымаюць удзел у шматлікіх культурных мерапрыемствах, якія арганізуюць у гэтым пасёлку. Найбольш культурных мерапрыемстваў арганізуюць яны ў мясцовым гмінным цэнтры культуры (ГОК). Ахвотна ўдзельнічаюць яны таксама ў грамадскіх чынах. Ужо ў гэтым годзе садзілі яны лес у надлясніцтве Броўск і маладыя дрэўцы пры тутэйшых дарогах.

Які далейшы лёс выпускнікоў нараўкаўскай ЗСР? Вучні гэтай школы атрымліваюць добрую пуцёўку ў жыццё. Палавіна з іх прадаўжае навуку ў сельскагаспадарчых тэхнікумах, рэшта пачынае працу ў ПГР, сельскагаспадарчых кааператывах або на ўласных гаспадарках. Пакуль што працы ўсім хапае. Ёсць выбар.

**Тэкст і фота (ця)**






# Клопаты вёскі Катоўка

У гэтым годзе на катоўскіх палях было па чым качаць каравай на Юр'я — у пачатку мая жыта было ўжо ў калена, дружна падымалася пшаніца, шчоткаю зеляне́ў авёс ды ячмень. Людзі стараліся хутчэй управіцца з бульбай, бо дні стаялі ўсмажлівыя, нібы ў чэрвені. І ў вясковых прысадах ужо адцвіталі слівы, бела-ружовым квеццем абліваліся вішні і вось-вось павінен быў рушыць цвет на грушах ды яблынях.

Мікалай Янюк — солтыс вёскі Катоўкі, што на Гайнаўшчыне, — толькі што вярнуўся з фабрыкі ў Гайнаўцы, дзе ён працуе, каб зараз жа брацца за работу на сваёй гаспадарцы. На солтысаў падворак зайшоў і Мікалай Сегень, сусед. Слова за словам і пайшла размова аб тым, што найбольш баліць гэтаму невялічкаму — усяго 42 гаспадаркі — сялу.

— Найбольшы наш клопат — гэта дарога з вёскі ў Гайнаўку, — сцвярджаюць абодва. — У Гайнаўцы цяпер наша гміна і павет. Дзе што якое, туды ўсё трэба. А дарога такая, што вясной гайнаўскі ГС трактарам нават угнаенняў давезці ў вёску не змог — выкінуў у гразь на паўдарозе. Потым гаспадары неяк самі коньмі цягалі. Малако штодзень адвозіць трактар з сельгасгуртка з Навасадаў — гразне па самыя восі. У мінулым годзе спрабавалі мы тут самі штоколечы зрабіць, больш 100 вазоў жвіру навезлі, у мосце кругі заклалі, абкапалі кіламетры два дарогі равамі. Але ўсё гэта патанула ў гліне, што і знаку няма. Наш радны Мікалай Цімашук амаль на кожным пасяджэнні гміннай рады справу дарогі падымае, былі мы і ў павятовай радзе. Урэшце прызначылі нам крыху грошай з гміны. Дарогу пачало рабіць Гайнаўскае прадпрыемства мясцовых дарог. Пачало якраз з сухога месца. А далей, кажа, грошай не хопіць. Вось і зноў тапіцца будзем. Што рабіць — самі не ведаем, — разводзіць рукамі солтыс.

— Не лепш выглядае ў нас і справа са злеўняй малака ды святліцай, — працягвае М. Янюк. — Цяпер злеўня знаходзіцца ў прыватным будынку. Будынак яшчэ ў добрым стане, абшырны, ніхто ў ім не жыве, і можна было б у ім зрабіць і ладную злеўню і прыгожую святліцу. Патрэбны сродкі на полап, печы, ашкленне вокан. Звярталіся мы ў розныя ўстановы, але ніхто нам з дапамогай не спяшаецца. Асабліва многа мог бы дапамагчы сельгасгурток з Навасадаў. Некалькі год таму назад, калі ліквідаваўся наш сельгасгурток, мы разам з машынамі перадалі ў Навасады і 300 тысяч злотых гурткоўскага фонду. Ці ж не знойдзецца для нас цяпер тых некалькі дзесяткаў тысяч злотых на рамонт і абсталяванне святліцы і злеўні?

— Або вось яшчэ, — прыгадвае, памаўчаўшы, солтыс. — Маем у вёсцы тэлефон. Добрая рэч! Але што ж, калі ён дзейнічае толькі ад 8 гадзін раніцы да 3 папаўдні. Пошта ў Дубінах працуе толькі ў гэтых гадзінах, а ў іншым часе наша лінія выключана. Невялікая карысць з такога тэлефона, праўда? — звяртаецца ён да мяне.

Так. Дарога, злеўня, святліца, тэлефон — вельмі важныя справы для Катоўкі, вёскі, закінутай у куток, воддаль рухлівых трасаў, недзе сярод палёў, у лагчыне. Ішоў я вуліцай вёскі і думаў: „З тэлефонам гэта нейкае непаразуменне, або проста недагляд павятовага праўлення пошты ў Гайнаўцы. Яно і павінна зараз жа заняцца гэтай справай. Але іншыя клопаты?..“

І я затрымаўся пры будынку, дзе ў Катоўцы цяпер памяшчаецца злеўня. Праўда, будынак добры, але страшна занядбаны, абросшы пустазеллем, замест ганка нейкія збуцвелыя бярвенні і кавалкі гнілых дошчак. А сюды штодзень прыносяць малако з кожнай хаты! Бачыў таксама і дарогу паміж Катоўкай і Дубінамі. Выглядае так, быццам на ёй чэрці аралі. Але ж кожны гаспадар едзе хоць бы адзін раз у тыдзень у Гайнаўку. Ці падумаў ён аб тым, каб, едучы, падкінуць на дарогу добрую фуру жвіру? Ішоў я па шырокай катоўскай вуліцы і прыглядаўся да сядзібаў. У адных гаспадароў і дамы выглядаюць, як цацкі, чысценькія, памаляваныя, абгароджаныя ладным штыкецікам, а ў другіх — будынкі занядбаныя, у гародчыках лапухі шумяць, на падворках д'ябал ногі паламаць можа...

Катоўцы трэба дапамагчы. Гэта вялікі і тэрміновы абавязак гміны, сельскагаспадарчага гуртка ў Навасадах, малачарні ў Гайнаўцы. Гэтая справа не можа быць абыдзена і Прэзідыумам ПРН у Гайнаўцы. Але не толькі. Дарослыя гаспадары і асабліва моладзь Катоўкі самі павінны падумаць, як справіцца са сваімі клопатамі і, закасаўшы рукавы, не азіраючыся на тых, хто мае дапамагаць, самі ўзяцца дружна за работу. Пры добрай ахвоце і дружна зрабіць можна вельмі многа! Прыклад гэтаму вёска Сухавольцы, Гайнаўскага павету, Калодна, Беластоцкага павету, і дзесяткі, як не сотні, іншых вёсак і сёлаў Беласточчыны. Калі будзе добры пачын у самых катоўцаў, то і дапамога для іх напэўна знойдзецца.

**Ігнат Снарскі**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я маю намер падаць у суд наконт падзелу спадчыны. У склад спадчыннай маёмасці ўваходзіць, між іншым, сядзіба, якая знаходзіцца ў карыстанні Х. Ён атрымаў дазвол на будову і пачынае будавацца. Ці магу я перад злажэннем справы аб падзеле маёмасці патрабаваць забароны будавацца на гэтай сядзібе, з якой Х карыстаецца бясплатна?

АДКАЗ: З пытання вынікае, што Х не з'яўляецца наследнікам і карыстаецца з сядзібы бясплатна. Паколькі ён не з'яўляецца наследнікам, ён не можа быць удзельнікам справы аб падзеле спадчыны. Таму нельга патрабаваць забароны будавацца ў справе аб падзеле спадчыны, а тым больш перад унясеннем гэтай справы ў суд.

Калі Х карыстаецца з сядзібы бясплатна, можна падаць на яго ў суд з патрабаваннем, каб ён аддаў вам сядзібу, і ў гэтай справе патрабаваць забароны будовы да часу канчатковага вырашэння справы. Можна таксама звярнуцца да суда з патрабаваннем забяспячэння вашай прэтэнзіі, забараняючы будавацца на вашай сядзібе, перад унясеннем справы ў суд. У гэтым выпадку суд вызначае тэрмін, у якім справа аб аддачы сядзібы павінна быць у суд унесена.

## Беларуская літаратура

# Нашаніўская пара

ЛІТАРАТУРНАЯ ПУБЛІЦЫСТЫКА — ЧАСТКА І

„Наша ніва“ стала цэнтрам беларускага літаратурнага жыцця. У сувязі са значным развіццём творчасці беларускіх пісьменнікаў патрэбныя былі крытычныя артыкулы, прысвечаныя творчасці гэтых пісьменнікаў.

Аднак беларускія пісьменнікі выраслі раней, чым беларускія крытыкі. Праўда, паэты публікуюць у „Нашай ніве“ свае творы ад самага пачатку існавання газеты, але больш сур'ёзныя крытычныя артыкулы, прысвечаныя прозе і паэзіі, паяўляюцца ў „Нашай ніве“ толькі ў 1910 годзе.

Да адной з першых крытычных літаратуразнаўчых публікацый трэба аднесці артыкул С. Ясеновіча „Беларуская літаратура ў 1909 г.“, змешчаны ў „Нашай ніве“ 7/1910 г. Аўтар публікацыі падкрэсліваў, што нягледзячы на тое, што беларуская літаратура існавала на працягу цэлых стагоддзяў, то ўсё ж такі толькі пасля 1906 года беларускія пісьменнікі дзякуючы „Нашай ніве“ навязалі кантакт з народам. Такім чынам скончыўся перыяд, у якім пісьменнік жыў сабе, а народ сабе. Ясеновіч заняўся таксама класіфікацыяй беларускіх пісьменнікаў. На першым месцы паставіў ён Янку Купалу. Праўда, крытык робіць паэту пэўныя закіды, аднак бачыць у яго творчасці значныя тэматычныя і фармальныя вартасці. Нароўні з Купалам паставіў Ясеновіч Коласа. Крытык спачуваў паэту, які знаходзіўся ў турме і не мог развіваць свайго творчага таленту. Апрача гэтых аўтараў, Ясеновіч выказаўся на тэму творчасці Цёткі, Гартнага, Каганца, Багдановіча і іншых беларускіх паэтаў і празаікаў.

Другі сур'ёзны артыкул „Глыбы і слаі“, прысвечаны беларускай літаратуры, паявіўся ў „Нашай ніве“ ў 1911 годзе. Яго аўтарам быў Максім Багдановіч. Багдановіч — чалавек з добрай літаратуразнаўчай адукацыяй. Меў, несумненна, свой уласны арыгінальны погляд на працэсы развіцця беларускай літаратуры. Заняўся ён і характарыстыкай агульных тэндэнцый у беларускай літаратуры.

Да найбольш дыскусійных трэба аднак аднесці артыкул Верашчакі (Ластоўскага) „Сплачвайце доўг“, які быў змешчаны ў „Нашай ніве“ з 26—27/1913 г. Верашчака выступіў супраць манатоннасці ў беларускай літаратуры. Атакаваў ён таксама песімізм — настрой, характэрны для большасці беларускіх паэтаў. Крытык даказваў, што беларуская літаратура мусіць змяніць свой характар. Мусіць стацца ідэалогій будучага. Не дэкадэнцкая безнадзейнасць і бязвер'е, а толькі імкненне да стварэння героя будучыні павінна характарызаваць беларускую літаратуру. Шукаючы грунту аптымістычных, радасных настрояў беларускай літаратуры, Верашчака знайшоў яго ў беларускай прыродзе. Для Верашчакі паэт — гэта высокая матэрыя. Матэрыя гэта не можа загразнуць у „гнаю, пяску і анучах“. Мусіць яна шукаць выйсця ў шырокім моры прыгажосці прыроды. „Паэта, — піша Верашчака, — павінен быць вучыцелем і пракорам свайго народу і павінен быць суддзёю, цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народу і краю“. Пісьменнікі — паводле крытыка — павінны адкрываць людзям вочы на прыгажосць, вучыць іх умець адчуваць хараство. Пісьменнік павінен разумець, што ў душы кожнага чалавека знаходзіцца натуральнае імкненне да хараства навакольнага свету. Паэт мусіць развіваць гэтае імкненне. „Апрача гною, драздоў, ануч і праклящця ў маёй душы ёсць яшчэ шмат красы, перад маімі вачыма скрозь краса, жыццё, сонца, песні і бязмернае багацце відаў“.

Прыгажосць прыроды паводле Верашчакі, узбуджае прыгажосць у душы чалавека. Прырода робіць чалавека высакародным, эмацыянальным, далікатным і чулым. Паэты павінны памагчы звычайным людзям навязаць кантакт з натуральнай прыгажосцю прыроды. У гэтым і заключаецца галоўны доўг пісьменніка — вучыцеля і прарока.

Трэба сказаць, што артыкул Верашчакі быў першым праграмным літаратуразнаўчым артыкулам у „Нашай ніве“. Усе публікацыі, якія паяўляліся ў газеце да 1913 года, мелі найчасцей рэгістрацыйны характар. Іх аўтары пералічвалі пісьменнікаў і іх творы. Стараліся ахарактарызаваць тэндэнцыі ў творчасці паасобных пісьменнікаў. Гаварылі найчасцей аб тым, што ўжо існавала, што ўжо было ў беларускай літаратуры. У адрозненні ад гэтых крытыкаў, Верашчака заняўся тым, што павінна быць у літаратуры. Публікацыя Верашчакі актыўна дамагалася, клікала, стварала пэўныя перспектывы. Зразумела, што такі артыкул не мог не выклікаць палемікі ў асяроддзі беларускіх крытыкаў і беларускіх пісьменнікаў. Верашчака стараўся ад фундаментаў змяніць структуру беларускай літаратуры. Вядома, што не ўсім такая канцэпцыя магла падабацца. Не падабалася яна і большасці беларускіх пісьменнікаў, для якіх апрабата тэзісаў Верашчакі была б аднaзначнай з дэзапрабатай сваёй творчасці.



*Аўтамат сарціроўкі цукерак.*



*Аўтаматычная лінія па загортванню цукерак.*



*Адзін з карпусоў фабрыкі.*



*У вытворчым аддзеле рыхтуюцца новыя кандытарскія вырабы.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# Мінская кандытарская фабрыка „Камунарка"

Густая зелень таполяў і клёнаў. Цяністыя алеі, радужныя кветнікі, альтанкі... І зусім побач — вытворчыя карпусы, чысты, акуратна заасфальтаваны фабрычны панадворак. Не пазнаць цяпер адно са старэйшых прадпрыемстваў Беларусі, дзіця першай давеннай пяцігодкі — Мінскую кандытарскую фабрыку „Камунарка".

Аднаўляецца, другую маладосць перажывае мінская „Камунарка". Як непадобная яна на тую паўкустарную і адзіную кандытарскую фабрыку, што была ў Беларусі да Вялікага Кастрычніка!

Прадукцыя фабрыкі ідзе не толькі ва ўсе куткі Беларусі, але і на Украіну, у рэспубліці Сярэдняй Азіі і Казахстан, у раёны Крайняй Поўначы, а таксама ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку. Пра высокае майстэрства мінскіх кандытараў ведаюць у Польшчы, Чэхаславакіі і іншых краінах.

У распараджэнні калектыву фабрыкі — прасторны клуб, дзіцячыя яслі, сад, а таксама буйны дзіцячы камбінат. У маляўнічым прыгарадзе Мінска на беразе вялікага Заслаўльскага вадасховішча знаходзіцца піянерскі лагер фабрыкі. На яго базе ў вясенне-зімовы перыяд працуе дом адпачынку.

**В. Паўловіч**
**Фота В. Казлова**



*Жылыя дамы рабочых фабрыкі.*





ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

**ВЕСНАВАЯ ЗЕЛЯНІНА**

### БЛІНЧЫКІ СА ШПІНАТАМ

На 25 дэкаў мукі ўзяць адно яечка, адну шклянку малака, шклянку вады, соль, кавалак саланіны. Апрача таго адзін кілаграм шпінату на фарш, адну шклянку малака, адну лыжку масла, лыжку мукі, лыжку цёртай булкі, соль, два яечкі. Зрабіць цеста. Падсмажыць блінчыкі. Перабраны шпінат памыць, абварыць, пасячы. З тлушчу і мукі зрабіць засмажку, дадаць шпінат, прыправы і цёртую булку, закіпяціць. У канцы дадаць сырыя яечкі, вымяшаць. Шпінатам змазаць блінчыкі, скласці іх і перад самай падачай падсмажваць.

### САЛАТ З ЗЯЛЁНАЙ ЦЫБУЛІ

Бярэм зялёную цыбулю, адну лыжку гарчыцы, пучок радыскі, паўшклянкі смятаны, тры яечкі, соль, цукар па смаку. Памытую зялёную цыбулю дробна нарэзаць, дробна нарэзаць і радыску разам з маладзенькімі лісткамі. Гарчыцу размяшаць са смятанай, соллю і цукрам, заліць нарэзаную гародніну. Зверху пасыпаць салат варанымі, пасечанымі яечкамі.

### ШЧАЎЁВЫ СУП

Трэба ўзяць: вывар з мяса, 20 дэкаў шчаўя, дзве шклянкі малака, лыжку мукі, два жаўткі, соль. Зварыць мяса. Шчаўе прапусціць праз мясарубку або пасячы, дадаць да атрыманага з мяса навару, закіпяціць. Запраўіць суп мукой, размешанай з малаком, закіпяціць ізноў. Сырыя жаўткі разбіць у кубачку, дадаць іх у суп, вымяшаць. Пасыпаць суп зялёным укропам.

### САЛАТА З ЗЯЛЁНАЙ ЦЫБУЛЯЙ

На пучок салаты, пучок зялёнай цыбулькі і пучок радыскі бярэм паўшклянкі смятаны. Гародніну памыць, салату абсушыць, перакроіць вялікія лісткі некалькі разоў, цыбулю і радыску разам з маладзенькімі лісткамі дробна нарэзаць, дадаць да салаты. Усё заліць смятанай, запраўленай соллю і цукрам па смаку. Замест радыскі можна дадаваць да гэткага салата малады агуркі ці памідоры, або адно і другое.

### ХАЛАДНІК З БАЦВІННЯ

На два пучкі маладых бурачкоў узяць адзін стары бурак, два літры кіслага малака, пучок зялёнай цыбулькі, пучок радыскі, тры яечкі і соль. Маладыя бурачкі дакладна памыць, дробна нарэзаць, заліць дзвюма шклянкамі гарачай вады, варыць пяць мінут. Стары бурак сцерці, выцісну́ць сок, дадаць да бурачкоў, закіпяціць і ўсё астудзіць. Зялёную цыбулю і радыску дробна нарэзаць. Кіслае малако збіць, дадаць буракі, радыску, цыбулю, заправіць соллю па смаку. У канцы дадаць крутыя яечкі. Найлепш смакуе гэты халаднік з бульбай. Некаторыя любяць яго есці з грэчневай кашай.

**Гаспадыня**





Падымаючыся па лесвіцы з падземнага бункера, дзе знаходзіліся ў той час службовыя і нават жылыя пакоі абвера, ён разгарнуў тэлеграму. У ёй гаварылася, што нейкі капітан Шварцбрук у 12.00 прыбывае экспрэсам у Берлін з Дрэздэна. Лібель зірнуў на гадзіннік. Было ўжо дзевяць. Правілы канспірацыі забаранялі сустракаць агентаў на вакзале. Трэба зняць капітана з поезда на апошняй станцыі перад Берлінам.

Лібель заправіў свой маналітражны фургончык „опель" і на поўнай скорасці выехаў да станцыі Зосен.

Машына мінавала бязлюдныя скрыжаванні, на некалькі мінут яе затрымаў затор ля перакуленага ў час начной бамбёжкі трамвая. На адным з рагоў над руінамі Лібель убачыў палотнішча, на якім карычневымі літарамі былі выведзены словы: „Мы вітаем першага будаўніка Германіі — Адольфа Гітлера", — гэта папрацавалі супрацоўнікі ведамства прапаганды. „Ну што ж, — падумаў Лібель, — яшчэ паўгода, і гэты „будаўнік" ператворыць Берлін ў груду руін". Машына прайшла праз прыгарадныя пасёлкі, міма чыстых домікаў пад крутымі чарапічнымі дахамі. Думаючы пра сваё, Лібель ледзь не наляцеў на паласаты шлагбаум з надпісам: „Рамонт. Аб'езд тры кіламетры". Дарога наперадзе моцна разбіта, гэта зноў сляды бамбёжкі. Часу заставалася ў абрэз. Лібель даў поўны газ. Перад мостам праз канал зноў прыпынак. Загараджальны атрад.

— На той бок нельга, пан обер-лейтэнант! — трывожна адрапартаваў малады яфрэйтар з атрада фолькштурма.

Па баках шашы ўжо стаяла з дзесятак машын, схаваных у ценю кустоў. Удалечыні, за каналам, слаўся дым, адтуль даносіўся грукат зенітных батарэй.

— Якога д'ябла! — Лібель з прыкрасцю ўдарыў кулаком па баранку. — Хто ў вас тут старшы, паклічце!

Юнак кудысьці знік і неўзабаве паявіўся са старым у форме фельдфебеля. Стары, уважліва прыжмурыўшы дальназоркія вочы, доўга разглядаў пасведчанне Лібеля.

— Абвер! Ён з абвера! — зашапталіся хлапчукі ў салдацкай форме, якія стаялі побач.

Нарэшце стары зразумеў, у чым справа, і па-заліхвацку ўзяў пад казырок.

— Але ж там, павінен вам далажыць, пан обер-лейтэнант, як вы самі чуеце, налёт авіяцыі... На станцыю Зосен... Гэта вельмі небяспечна!

Лібель усміхнуўся:

— На фронце яшчэ больш небяспечна, фельдфебель!

Шлагбаум падняўся і обер-лейтэнант на поўным ходзе павёў машыну цераз мост. Яшчэ з насыпу ён убачыў палымя, што ўздымалася за дымным воблакам. Гарэла станцыя, а за паўтара кіламетра ад яе (Лібель выдатна вызначаў на вока адлегласць), збаўляючы скорасць, падыходзіў дрэздэнскі экспрэс. Звярнуўшы з шашы, обер-лейтэнант павёў машыну па нейкім поплаве прама насустрач поезду. І ў гэты момант пачуўся свіст бомбы, прагучаў выбух. Лібель спыніў машыну і выскачыў з кабіны.

Асноўная частка самалётаў — гэта былі амерыканскія цяжкія бамбардзіроўшчыкі — прайшла ўжо на Берлін. Але два самалёты адсталі і цяпер атакавалі станцыю Зосен і поезд, што падыходзіў. Буйнакаліберныя кулі грукнулі па дахах вагонаў.

Адтуль у паніцы выскоквалі людзі. Обер-лейтэнант, не бачачы і не чуючы нічога навокал, кінуўся да чацвёртага вагона. З цяжкасцю ён прабіўся скрозь сустрэчны натоўп і ўціснуўся ў купэ. На канапе сядзеў высокі загарэлы чалавек у мундзіры капітана вермахта, адной рукой ён прыціскаў да шчакі насоўку, другой трымаў вялікі чорны партфель. Шкло ў акне было разбіта.

— „Цыклон"! — сказаў паўшэптам Лібель, аўтаматычна падымаючы руку ў прывітанні.

Чалавек устаў, не аднімаючы рукі ад твару.

Вазьміце мой чамадан, — сказаў ён. — Партфель я панясу сам, у ім дакументы. О, д'ябал, як гэта не дарэчы! Мяне стукнула асколкам шкла. Паглядзіце, што там? — Ён прыняў руку.

— Дробязь, — сказаў Лібель. — Вам накладуць шво. Крыху рассечана шчака. Хадземце!

Узяўшы адной рукой чамадан, другой падтрымліваючы капітана, Лібель дапамог яму выбрацца з вагона.

Яны амаль збеглі па насыпе і накіраваліся да машыны. Амерыканскія самалёты разварочваліся непадалёк на другі заход.

Обер-лейтэнант дапамог высокаму Шварцбруку ўзлезці ў фургон „опеля".

— Што, не знайшлося іншай машыны? — спытаў капітан, уціскаючыся ў кузаў.

— Інструкцыя патрабуе, пан капітан, каб машына была закрытая і каб вас ніхто не бачыў. Мы паедзем па горадзе, — адказаў Лібель. — Прашу вас, хутчэй, самалёты вяртаюцца.

Лібель зачыніў дзверы і пад аглушальны трэск новых чэргаў сеў за руль.

Праз усю мітусню, што панавала на станцыі, ён здолеў прабрацца на шашу. Машыну кідала з боку на бок, звар'яцелыя ад страху людзі кідаліся прама пад колы, штосьці моцна ўдарыла па кузаве ці то зверху, ці то з сярэдзіны.

# ТРЫБУНА чытачоў

## Узорны гараж

Даўно мучыўся сельгасгурток у Паўночным Востраве без добрых гаражоў і складаў. Каб хоць частку машын схаваць пад дахам, праўленне гуртка наймала прыватныя памяшканні. Тое самае было і з кузняй.

Але ў канцы 1972 года была пабудавана ў Паўночным Востраве міжгуртковая база самага новага тыпу. Ёсць тут вялікія гаражы на машыны, склад на збожжа, майстэрні для рамонту машын, вялікая святліца, гасцінны пакой і ўмывальня. Усё на месцы. **А. С.**




### ПАЧАКАЙ

Пачакай, жыццё, не хачу аднак
Стаць дарослаю, я ж маленькая!
Як затрымаць час, як жа гэта, як?
Як схаваць цябе, мая хвіліначка?

Цёплы вецер, што лёгка павяваў
Маймі косамі, быццам ніваю?
Нотку салаўя, што мне напяваў
Дзяцінства песню шчаслівую?

**Або шум лісця на бярозе той,**
**Што расла на ўскраіне дубровы?**
Або сонца мёд і пчаліны рой?
Сумны роў галоднай каровы?..

Пачакай, жыццё, не хачу аднак
Стаць дарослаю, я ж маленькая!
Як затрымаць час, як жа гэта, як?
Як схаваць цябе, мая хвіліначка?

**Міра Лукша**

### НЕ ЗАБУДУ

Мая ты родная старонка,
ты за ўсё на свеце даражэй,
ты мне спяваеш песняй звонкай,
як той у небе салавей.

Я тут пражыў сваё дзяцінства,
тут першы раз сяброў пазнаў,
тут я калісь хадзіць вучыўся,
тут слова першае сказаў.

Знаёмае ўсё тут навокал:
палі, лугі і сенажаць,
там лес стары шуміць пад бокам,
нібы аб чымсьці хоча расказаць.

Прайшлі гады, і адплыло
маё шчаслівае дзяцінства,
аднак шырока ў сэрцы залягло
тое, чаго тут навучыўся.

І дзе но толькі я не буду,
куды бы я не „заблудзіўся“,
нідзе ніколі не забуду,
што беларусам нарадзіўся.

**Міхась Шаховіч**

Нарэшце па баках зноў замільгацелі ліпы.

Обер-лейтэнант спыніў машыну. Трэба паглядзець, як там гаўптман Шварцбрук? Бадай, трэба было б яму зрабіць перавязку. Як кожны запаслівы немец, Лібель у той час вазіў з сабой аптэчку. Ён дастаў яе з-пад сядзення і накіраваўся да задняй дзверцы. На пафарбаваным метале борта обер-лейтэнант убачыў свежую прабоіну. З заміраючым сэрцам ён адчыніў фургон. Капітан Шварцбрук ляжаў на дне кузава. Лібель, затаіўшы дыханне, агледзеў яго. Мёртвы. Відаць, гэта адбылося, калі машына адыходзіла са станцыі. Недарэчны выпадак!

Гэта пагражала обер-лейтэнанту Лібелю многімі непрыемнымі вынікамі. Цяпер у оберштурмбанфюрэра Клеца былі ўсе падставы даць магчымасць тылавіку „панюхаць фронт“. Тым больш, што сведкаў гібелі капітана Шварцбрука не было. „Чортаў паліцай“, напэўна, можа назначыць следства. Усё гэта ніяк не ўваходзіла ў планы обер-лейтэнанта Лібеля, тым больш, што ён зусім і не быў ні Карлам Лібелем ні сапраўдным обер-лейтэнантам. У сакрэтных спісах савецкай разведкі перад яго простым рускім прозвішчам стаяла зусім іншае воінскае званне: „Палкоўнік“.

Лібель задумаўся. У запасе ў яго ўсяго гадзіна-паўтары. Але вось ён прыняў рашэнне і на сваёй машыне, якая раптоўна ператварылася ў катафалк, памчаўся да Берліна.

**(Працяг будзе)**

## Сустрэча з ветэранамі

Гурток ЗВоВіД пасёлка „Тысячагоддзя“ ў Беластоку ўтрымлівае цесную сувязь са школамі. Актывісты гуртка сустракаюцца са школьнай моладдзю і расказваюць аб змаганні з ворагам за незалежнасць і народную ўладу. Моладзь з вялікім зацікаўленнем слухае ветэранаў. Нядаўна такія сустрэчы адбываліся ў школах № 6 і № 25. Удзельнічалі ў іх з боку ветэранаў старшыня камісіі прапаганды і супрацоўніцтва з моладдзю Васіль Петручук і Казімеж Каладзейскі. **Актывіст**

## Зняць шапкі, грамадзяне!

За год існавання клуба ў Грэдалях змяніліся ў ім аж тры кіраўнікі. Цяпер кіруе ім маладая, ветлівая дзяўчына з Кошак Марыся Плішко. У нядзелі і свята поўна тут моладзі. Прыходзяць і старэйшыя: любяць яны пагаварыць аб гаспадарскіх справах і паслухаць „Віхерка“.

Заціраецца памалу розніца паміж горадам і вёскай. У горадзе — кавярні, на вёсцы — клубы. Толькі ў гарадской кавярні мужчыны сядзяць з адкрытымі галовамі, а ў вясковым клубе — у шапках. Відаць, гэта прывычка: зімою ў клубе было холадна. Мо падзейнічае тут лозунг: „ Вясна, грамадзяне, здыміце ў клубе шапкі!“

**Наглядальнік**




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Жыву я на вёсцы. Разам з бацькамі працую на гаспадарцы. Мне 23 гады. Большасць маіх сяброўак ужо выйшла замуж і я таксама магла ўжо выйсці. З Олькам, хлопцам з нашай вёскі, хадзіла я два гады. Ён хацеў, каб я выйшла замуж за яго, але я ўсё неяк не спяшалася. Гэта прыстойны, чарнявы хлапец. І да таго вельмі добры. Сярод хлопцаў вызначаецца ветлівасцю і культурнымі паводзінамі. Сяброўкі зайздросцілі мне. Кожная з іх ахвотна з ім хадзіла б. Але ён не звяртаў на іх увагі. Гаварыў, што толькі я яму падабаюся і толькі мяне так шчыра кахае. Я таксама яго кахаю. Быў ён вельмі добры і я была надта ўпэўненая, што магу патрабаваць ад яго, чаго толькі захачу, а ён усе мае жаданні споўніць. І так было. Не раз я гневалася на яго зусім беспадстаўна, а ён мяне перапрашаў, хоць не быў вінаваты. Карыстаючыся тым, я станавілася ўсё больш капрызнай. І праўду кажучы, сама ўжо не ведала, чаго патрабаваць ад яго. І вось Олек перастаў мяне наведваць. Цяпер, калі ён мяне пакінуў, я зразумела сваю памылку, зразумела, што крыўдзіла я яго за дабрату. Цяпер адчула, як не хапае мне яго. Пачаў да мяне заляцацца іншы хлопец. Правяла я з ім некалькі вечароў. Але бачу, што не цікавіць ён мяне. Гэта ўжо не такі мілы і сімпатычны хлопец. Не маю ахвоты з ім спатыкацца. Хацела б, каб вярнуўся да мяне Олек. Ён не мае іншай дзяўчыны і, думаю, таксама перажывае наша расстанне. Парай, „Сэрцайка“, што зрабіць, каб вярнуць мне яго і ці гэта ўвогуле магчыма?

**Гражына з Гайнаўшчыны.**

Гражына! Мела ты добрага хлопца, але не ўмела яго шанаваць. Скончылася цярплівасць Олька. Як кажуць, носіць збанок ваду да тае пары, пакуль вуха не абарвецца. Твае капрызы мерку перабралі. Страчанае вярнуць ужо не так лёгка. Але, думаю, справа не безнадзейная. Шукай аказіі, каб спаткацца з Олькам. Жывеце ў адной вёсцы, дык не так ужо і цяжка. Старайся паказаць сябе перад Олькам як найлепш. Будзь мілай і скромнай, а можа ўсё ўладзіцца.

**„Сэрцайка“.**



## Гразная Нараўка

Яшчэ не так даўно на рацэ Нараўка, што плыве цераз Белавежу, плавалі лебядзі. Рака, многія гады не чышчаная, інтэнсіўна зарастае. Не наведваюць ужо яе нават дзікія качкі. Ачышчэнне ракі адкладваецца з года на год. А яна несамавіта гразная. Ці так павінна быць у прыгожай турыстычнай мясцовасці? **К. Т.**

## Найбольш

Скупачны пункт жывёлы ў Дубічах Царкоўных мае найлепшыя вынікі па скупцы ў Гайнаўскім павеце. Вязуць сюды сваю жывёлу нават з далёкіх вёсак, таму і чарга тут заўсёды вялікая. Ніхто тут, аднак, на працаўнікоў пункту не наракае, яны хутка абслугоўваюць сялян. Пануе тут таксама парадак і чысціня. Немалая ў гэтым заслуга кіраўніка пункта Мікалая Герасімюка. **М. Панфілюк**

## Перадавы пісьманосец

Яўгеній Гаўрылюк з'яўляецца пісьманосцам кляшчэлеўскай пошты Гайнаўскага павету. Хоць працуе на гэтай пасадзе яшчэ не доўга, аднак праявіў сябе дысцыплінаваным і сумленным працаўніком. Добра ён пазнаёміўся са сваім раёнам і людзьмі, здабыў давер і пашану ў сялян, а таксама і ў свайго кіраўніцтва.

— Яўгеній Гаўрылюк патрабавальны, спакойны, — гаворыць аб ім дырэктар акруговага паштовага ўпраўлення ў Гайнаўцы Мікалай Суліма. — Павінен быць вельмі добрым паштавіком.

Пісьманосец Яўгеній Гаўрылюк праяўляе шмат клопатаў аб распаўсюджванні друкаванага слова, а асабліва нашага тыднёвіка. 48 падпісчыкаў „Нівы“ гэта лік зусім не малы, аднак Яўгеній Гаўрылюк кажа, што зробіць усё, каб гэты лік павысіць. Жадаем яму ў гэтым як найлепшых вынікаў.

**М. Гогель**

## На школьным аглядзе

5.V.1973 г. у Мілейчыцах адбыўся павятовы агляд школьнага конкурсу „Беларуская песня — 73“. Арганізатарамі мерапрыемства і фундатарамі ўзнагарод былі аддзелы асветы і культуры ПРН у Сямяцічах і аддзел БГКТ у Мілейчыцах.

У аглядзе ўдзельнічала 36 асоб — вучняў падставовых школ.

Першае месца ў катэгорыі салістаў журы прысудзіла Міхасю Літвінюку з Рагачоў, II — Людміле Дамарук з Клюковіч, III — Янку Стральчуку з Вілінава.

У катэгорыі дуэтаў I месца заняў дуэт з Клюковіч, II — з Вілінава, III — з Рагачоў.

У катэгорыі малых вакальных калектываў I месца заняў квартэт з Мілейчыц, а II — квартэт з Вілінава.



Квартэт з Мілейчыц. Злева направа: Эльжбета Стралінская, Зіна Мартынюк, Славаміра Аляксеюк і Уршуля Езюк.

**Тэкст і фота Сяргея Крэйзы**




**МСМ.** Аб пажары клейніцкай царквы мы далі адпаведную інфармацыю. А іншыя лісты Вы пішаце ад імя іншых асоб. Нам здаецца, што яны самі могуць аб сваіх справах напісаць у рэдакцыю. Тым больш, што пішаце вельмі невыразна і мы часта не можам Вас зразумець.

**Ніна Матысюк, Чыжы.** „Дом“ і „Дарогу“ надрукуем.

**Люцына Асташэўская. Кляшчэлі.** Вершы надрукуем.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Nieznany” (polski), 29-30.IV. „Dwaj panowie bez parasola” (rumuński), 31.V-1.VI. „150 na godzinę” (polski), 2-3.VI.

**Нараўка**
„Kopernik” I i II cz. (polski), „Zwiadowca” (radz.), 30.V-3.VI.

**Нарва**
„Trzy kobiety” (polski), „Ranny w lesie” (polski), 30.V.-3.VI.

**Чыжы**
„Lekcja odwagi” (czeski), „Śmierć Ipu” (rumuński), 30.V-3.VI.

**Дубічы Царкоўны**
„Zaraza” (polski), „Żandarm z gór” (bułg.), 30.V.-3.VI.

**Арэшкава**
„Agnieszka 46” (polski), „Don Gabriel” (polski), 2-3.VI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Przygody psa Cywila” (polski), „Milion lat przed naszą erą” (angl.), 30.V.-3.VI.

**Орля**
„Kajtek i nowy braciszek” (węgierski), „Poszukiwanie” (hiszpański), 30.V.-3.VI.

**Райск**
„Morderca na zawołanie” (węgierski), „Przygody psa Cywila” (polski), 30.V.-3.VI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Popierajcie swego szeryfa” (USA), „Zaproszona” (franc.), 30.V.-1.VI.

**Янаў**
„Rewizja osobista” (polski), 30.V.-3.VI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Daleko od słońca” (jugosł.), „Lampy naftowe” (czeski), 30.V.-3.VI.

**Мельнік**
„Labirynt miłości” (radz.), 29-30.V. „100 karabinów” (USA), 31.V.-1.VI. „Woda życia” (radz.), 2-3.VI.

**Мілейчыцы**
„Pippi” (szwedzki), 29-30.V. „Wakacje we czworo” (włoski), 31.V.-1.VI. „Brylanty pani Zuzy” 2.-3.VI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Tajemnica Aleksandra Dumasa” (czeski), „Wujaszek Wania” (radz.), 30.V.-3.VI.

**Новы Двор**
„Rycerz szklanego ekranu” (węgierski), „Dzień, w którym wypłynęła ryba” (grecki), 30.V.-3.VI.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa”, Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł., półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch” w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch” Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40%.

BZGraf. Nakład 8237 K-1

# Хлеб

Ці ведаеце вы, што такое хлеб? Б'юся аб заклад, не ведаеце.

Забег я восьь учора ў хлебны магазін. Спераду — маладзіца. Адну паліцу хлеба перакінула. Другую.

— Перапечаны! — бурчыць.

Трэцяя паліца.

— Нейкі не круглы. Ды і недапечаны. У адных плямах!

Хлеб з перадапошняй паліцы выдаўся надта пухкім.

— Аж пальцы сходзяцца, калі возьмеш у рукі. Цьфу!

І ўсё мацае, мацае. А вочы так гараць, нібы кабетка карты з калоды выцягвае, ды ніяк не можа дабрацца да козыра.

— Цётачка, — не вытрымаў я, — вы ж гэтак увесь хлеб перамацаеце.

— Ну дык і што?

— А тое, што пасля яго іншым трэба есці.

— Ведаем без саплівых.

— Эх! Ды пасля вас той хлеб у горле стане!

На дзіва, цётачка не кінулася выкарчоўваць мне валасы.

— Не трэба капрызіць, — гаворыць павучальна. — Вось які народ пайшоў. Запанелі. Разжырэлі. Забылі, што такое хлеб. Забылі!

Чарга прысаромлена маўчала.

**Віктар Яндзябера**



*З практыкі нашага лекара.*

### У ПАРКУ

Муж і жонка прагульваюцца ў парку. Насустрач ідзе дама. Муж гаворыць жонцы:

— Пастарайся, Сафі, выглядаць шчаслівай: дама — мая першая жонка.

*Не будзем біцца з-за штучнай наседкі.*

# НІЎКА

### ПЫТАННЕ

Сын выйграў аўтамашыну, пасадзіў у яе свайго бацьку і вырашыў пакатаць. Па дарозе ўдарыўся аб тэлеграфны слуп і спыніўся.

— Сынок, — гаворыць бацька, — а як ты будзеш спыняць сваю машыну ў полі, дзе няма слупоў?

### ЗРАЗУМЕЛІ

Дзеці меліся пісаць сачыненне паводле вядомай карціны. Настаўнік доўга расказваў сваім выхаванцам пра яе. Нарэшце, калі яму здалося, што вучні ўсё зразумелі, ён спытаў:

— А зараз, дзеці, хто мне скажа, для чаго мастак намаляваў гэтую карціну?

— Каб мы пісалі сачыненне па ёй, — доўга не думаючы, выпаліў адзін гарэза.

*— Перастань курыць, дачуся! Ты ж даеш дрэнны прыклад бацьку.*

## Павучок-мухаед

Павучок-мухаед  
Злавіў муху на абед.  
Просіць муха павука,  
Ненажэру-крыжака:  
— Адпусці, не вяжы,  
Дай на свеце пажыць!  
Не цягні за касу,  
Не губі маю красу,  
Дзі-дзі-дзі! Дзі-дзі-дзі!  
Ад мяне ты адыдзі.  
Точыць нож павук,  
Аж сагнуўся ў крук.  
Мушка скокнула,  
Вязка лопнула,  
Аглянуўся мухаед,  
Паляцеў яго абед.  
Так было, а можа не...  
Не пытайся ў мяне.

**Станіслаў Шушкевіч**

### Галавaломка

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**

**...Скупасць у ім перамагла злосць: яму нават было шкада сваёй солі на чужую рану.**

**...Ён займаў месца толькі для таго, каб, уступаючы яго, прымаць падзякі.**

### ПА СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Валакіта паміж дзвюма амерыканскімі нафтавымі кампаніямі ў Тэхасе за права ўладання спорнымі ўчасткамі была перанесена ў суд. Перад пачаткам судовага разбірацельства старшынствуючы зрабіў наступнае заяўленне:

— Члены суда атрымалі ад „Баксас-ойл компані" чэк на суму 100 тысяч долараў, а ад „Наксас-ойл компані" — на 150 тысяч. Я магу паведаміць, што кампаніі „Наксас-ойл" будзе вернута розніца ў 50 тысяч долараў, пасля чаго суд вырашыць справу па справядлівасці.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*

*Калі суддзя на рынгу глухаваты.*

**Франц Крумель (ФРГ)**

## Навокал кручка

Вяртаючыся з рыбы, ці падумалі вы аб рыбе, якая, вярнуўшыся ў сваю сям'ю, будзе хлусіць аб велічыні рыбака, ад якога яна ўцякла?

* * *

Нідзе навукова не даказана, што рыбная страва садзейнічае паляпшэнню разумовай дзейнасці. Але слухаючы расказы рыбака, можна з упэўненасцю сказаць, што рыбная лоўля стымулюе развіццё фантазіі.

* * *

Рыбакоў можна раздзяляць на дзве асноўныя катэгорыі:

тыя, хто ловіць для задавальнення,
тыя, хто што-небудзь ловіць.

* * *

Рыба вельмі хутка расце.

Яна тройчы павялічваецца ў размеры з таго моманту, калі яе злавілі, да моманту, калі шчаслівы рыбак апісвае яе свайму сябру.

* * *

Большасці людзей вялікія здзяйсненні ўдаваліся тады, калі яны былі ў адзіноцтве.

Адзін з прыкладаў: рыбакі.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ірэны Васілюк з Козлікаў Гайнаўскага павету і Веры Янушчык з Баброўкі Сямяціцкага павету змяшчаем песню

## Wiosna majem wróci

Wiatr kasztanem stuka w okno,  
gną się drzew konary,  
mgły po łąkach się już wloką,  
cichnie wieczór szary.

Świerszcze skaczą za kominy,  
zioła na powałę,  
jesień chowa już do skrzyni  
liście złote stare.

Ale nie martw się dziewczyno,  
nie warto się smucić!  
Dni zimowe szybko miną,  
wiosna majem wróci...

Nie ma domów wśród paproci,  
co nad skarpą stały.  
W oknach mroźnych kwiatów krocie  
Świat zasłonią cały.

Zima znowu nam zaśpiewa  
śniegiem pod stopami,  
znikną w bieli krzewy, drzewa,  
skarpa z paprociami.

Ale nie martw się dziewczyno,  
nie warto się smucić!  
Dni zimowe szybko miną,  
wiosna majem wróci...

### ГУМАР З

## Няўдзячны

Няздатная жонка трапілася Герасіму. Памыцца ды пафарбавацца, сукенку адпрасаваць ды валасы расчасаць толькі і ўмее. А страву варыць — ані-ні. Рукі не туды ходзяць. Адну зацірку калоціць. Зацірка ўранні, зацірка днём, зацірка ўвечары.

Памізарнеў Герасім. Быў як яблычак, а стаў як зернятка. Просіць аднойчы:

— Спякла б ты, даражэнькая, пірог. Пакуль касіў ды сена сушыў — занядужаў.

Давялося жонцы знімаць з гарышча дзяжу ды расчыняць рошчыну. Месіць яна цеста ды прыгаворвае:

— Спяку я табе, мужычок, мой першы хлябок. Кругленькі, цёпленькі, румяненькі...

Цеста ад рук нажом адскрэбла, пасадзіла камячком на лапату і вухнула ў печ.

Што з гэтага атрымалася — казаць не будзем. Толькі пасля жонка скардзілася сваёй суседцы:

— Спякла я сягоння пірог свайму чалавеку. Ды такі кругленькі, румяненькі, як яблычак. А ён як ударыць мяне гэтым пірагом у плечы, усё роўна як каменем. Аж цяпер баліць. Во няўдзячны!

# Курёзы

### КАЛІ НЕ ПАТРЭБНЫ ФАКІРЫ

У мястэчку Шырала, якое размешчана за 400 кіламетраў на паўднёвы ўсход ад Бамбея, штогод у пачатку верасня адзначаецца Нагпанчамі — свята змей.

За два дні да гэтага незвычайнага свята мясцовыя жыхары адшукваюць змяіныя норы, якіх шмат у акрузе, і надзвычай асцярожна — каб не прынесці шкоду ядавітым прыгажуням — выцягваюць іх адтуль. Змей змяшчаюць у гліняныя збаны, гарлавіну якіх моцна завязваюць анучкай.

Раніцай, у дзень свята, змей выносяць на цэнтральную плошчу і... выпускаюць. Пасля гэтага некалькі чалавек пачынаюць адбіваць барабанны пошчак на пустых гліняных збанах, і вось тут пачынаюцца цуды. Змеі, якія здавалася б, павінны разлазацца, раптам выцягваюцца і пачынаюць павольна пагойдвацца, быццам зачараваныя рытмам. Наперад выходзяць жанчыны і расстаўляюць перад змеямі сасуды з сандалавым маслам і малаком, раскладваюць рыс, кукурузу і кветкі. Першая частка цырымоніі закончана.

Днём настае кульмінацыйны момант свята. Збаны са змеямі на павозках, запрэжаных упрыгожанымі з гэтага выпадку валамі, праводзяць па вуліцах. Працэсія пачынаецца ля храма змей. Тут збіраецца вялізны натоўп каб паглядзець на майстэрства, што дэманструюць змеяловы, якія прымушаюць змей рабіць ледзь не акрабатычныя нумары. Гвоздь праграмы — змяя, якая стаіць на хвасце. На свята прафесіянальныя заклінальнікі — факіры не дапускаюцца.



**Калі ты размаўляеш з самім сабою, то гэта яшчэ не значыць, што ты знайшоў цікавага субяседніка.**